# Голас Радзімы

№ 11 (2049)
17 сакавіка 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**Сталіца Беларусі даўно стала месцам правядзення вялікіх спартыўных святаў, усесаюзных фестываляў мастацтва і міжнародных навуковых кангрэсаў. А нядаўна ў Мінску сабраліся лепшыя выканаўцы бальных танцаў з 15 гарадоў краіны. Два дні ў Палацы культуры Мінскага трактарнага завода праходзіў конкурс «Мара-88».**

**[Фотарэпартаж аб гэтай падзеі змешчаны на 8-й стар.].**

ВІЗІТЫ

## ПА ЗАПРАШЭННЮ МУНІЦЫПАЛІТЭТАЎ ЭКВАДОРА

Па запрашэнню Асацыяцыі эквадорскіх муніцыпалітэтаў у Эквадор прыбыла дэлегацыя Беларускай ССР на чале са старшынёй гарвыканкома Мінска У. Міхасёвым. У плане знаходжання дэлегацыі БССР у Эквадоры сустрэча з кіраўнікамі Асацыяцыі эквадорскіх муніцыпалітэтаў, віцэ-прэзідэнтам рэспублікі Бласка Пеньяэрэра Падылья, міністрам унутраных спраў Хайнцам Мюлерам, намеснікам старшыні Нацыянальнага кангрэса Фернанда Герэра Герэра, наведанне розных правінцый краіны.

Візіт дэлегацыі БССР несумненна будзе садзейнічаць умацаванню і пашырэнню сувязей паміж народамі Савецкага Саюза і Эквадора, заявіў старшыня Асацыяцыі эквадорскіх муніцыпалітэтаў алькальд горада Рыабамбы Арнольда Мерына Муньяс. Некалькі месяцаў назад прадстаўнікі Асацыяцыі эквадорскіх муніцыпалітэтаў мелі магчымасць наведаць Савецкі Саюз. І на ўсіх членаў гэтай дэлегацыі зрабілі незабыўнае ўражанне дасягненні савецкага народа ў розных галінах.

## БССР—ПНР: КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ

ПАЎНАПРАЎНАЙ ГАСПАДЫНЯЙ КАНЦЭРТНЫХ ПЛЯЦОВАК ГОРАДА НАД ДЗВІНОЙ СТАЛА НЯДАЎНА ПОЛЬСКАЯ ПЕСНЯ.

Тут прайшоў першы адборачны тур усесаюзнага конкурсу, заключны канцэрт якога адбудзецца летам. Сярод выканаўцаў — урачы і настаўнікі, работнікі культуры — сапраўдныя паклоннікі і прапагандысты багатых традыцый польскай культуры.

Разнастайныя творчыя сувязі Віцебшчыны і Зеленагурскага ваяводства. І свята польскай песні гэта пацвердзіла. Яно даўно і трывала завявала папулярнасць у віцяблян: цяперашні конкурс ужо сёмы. Такой пастаяннай традыцыі не адшукаць, бадай, не толькі ў рэспубліцы, але і ў краіне. Гэта і было рашаючым аргументам у вызначэнні горада-гаспадара і арганізатара маючага адбыцца ўсесаюзнага форуму польскай песні — раўнапраўнага партнёра і калегі славутага зеленагурскага фестывалю савецкай песні.

МАЦНЕЮЦЬ СУВЯЗІ ПАМІЖ ПРАДПРЫЕМСТВАМІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ І БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА.

І кожны раз пры сустрэчы з чымсьці новым узнікае жаданне пачыць у суседзяў лепшае. У адных галінах мы пакуль што апярэджваем сваіх польскіх партнёраў, у іншых — яны паспелі назапасіць большы вопыт.

Гродзенскае навукова-даследчае праектнае бюро аб'яднання «Белрэстаўрацыя» робіць яшчэ толькі першыя крокі. Беластоцкае ж аддзяленне дзяржпрадпрыемства «Майстэрні кансервацыі помнікаў» даўно вядомае ў Польшчы. Нядаўна ў Беластоку абодвума бакамі падпісаны пратакол аб супрацоўніцтве на тэрмін да 1990 года.

Беларускія і польскія рэстаўратары мяркуюць абменьвацца інфармацыяй пра свае найбольш цікавыя працы. Яны будуць аказваць дапамогу адзін аднаму ў вывучэнні дакументаў, якія захоўваюцца ў архівах ПНР і СССР. І, нарэшце, вырашана ў мэтах узаемадапамогі абменьвацца спецыялістамі для ўдзелу ў праектаванні і даследаванні архітэктурных помнікаў.

«БЕЛАРУСЬ — ВАЧАМІ МАСТАКОЎ». ВЫСТАЎКА ПАД ТАКОЙ НАЗВАЙ АДБЫЛАСЯ Ў ПОЛЬСКІМ ПАРТОВЫМ ГОРАДЗЕ ГДАНЬСКУ.

Яна азнаёміла шматлікіх наведвальнікаў з дасягненнямі графікаў нашай рэспублікі. Каля 50 работ адлюстравалі тэму Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, гераічную барацьбу беларускага народа ў гады другой сусветнай вайны. Частка работ — ілюстрацыі да кніг беларускіх пісьменнікаў, народных казак. Увагу прыцягваюць работы С. Бродскага, Г. Паплаўскага, Ю. Зайцава, В. Аляксандрава, А. Кашкурэвіча і іншых вядомых майстроў.

Усе экспанаты — з фондаў Дзяржаўнага мастацкага музея Беларускай ССР у Мінску.

ВЫСТАЎКА У ЗАХОДНІМ БЕРЛІНЕ

## ЛЕПШ ВЕДАЦЬ І РАЗУМЕЦЬ

«Мінск — Заходні Берлін — вачамі адзін аднаго» — пад такой назвай у Заходнім Берліне ў выставачнай зале Шэнебергскай ратушы адкрылася сумесная фотавыстаўка, якая праводзіцца ў рамках развіцця партнёрскіх сувязей паміж сталіцай Савецкай Беларусі і Заходнім Берлінам. На ёй прадстаўлена больш за 200 каляровых і чорна-белых фатаграфій, зробленых адпаведна беларускімі фотакарэспандэнтамі ў Заходнім Берліне і мясцовымі журналістамі ў Мінску. Экспазіцыя вельмі разнастайная — тут работы на вытворчую тэматыку, пра культурнае жыццё, адпачынак людзей, гарадскія выдатныя мясціны, быт і вучобу моладзі, сацыяльныя аспекты. Фотакарэспандэнты імкнуліся паказаць жыццё двух гарадоў такім, якое яно ёсць. І ім гэта ў многім удалося.

Невыпадковы і дэвіз экспазіцыі: лепш ведаць і разумець адзін аднаго. Яе непасрэднымі арганізатарамі выступаюць Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі і пяць заходнеберлінскіх грамадскіх арганізацый, у тым ліку Таварыства германа-савецкай дружбы, «Акцыя збавенне», аб'яднанне «Мірныя ініцыятывы». Выстаўка, якая ўносіць важкі ўклад ва ўмацаванне давер'я і ўзаемаразумення паміж жыхарамі двух гарадоў, будзе на працягу месяца экспанавацца ў Заходнім Берліне. А з мая яна будзе адкрыта ў Мінску.

Экспазіцыя выклікала вялікую цікавасць жыхароў Заходняга Берліна. На яе адкрыцці прысутнічалі намеснік старшыні сацыялістычнай адзінай партыі Заходняга Берліна Дзітмар Арэнс, а таксама дэлегацыя Мінска на чале з намеснікам старшыні Мінгарвыканкома М. Марозавым.

АЎТАСЕРВІС



Буйнейшы на захадзе краіны комплекс па рамонту і тэхдогляду аўтамабіляў сістэмы «Саўтрансаўта» ўзведзены ў Брэсце. Новае прадпрыемства Брэсцкага вытворчага аб'яднання міжгародніх перавозак абслугоўвае кожныя суткі да двухсот аўтамабіляў свайго ўласнага парка і транзітных, у тым ліку зарубежных фірм.

Весці вялікую і складаную гаспадарку памагае аўтаматычная сістэма кіравання. Электроніка сочыць за рухам грузаў, расходам паліва, запчастак, памагае афармляць дарожныя дакументы. Комплекс будзе ўдасканальвацца, заканчваецца будаўніцтва гасцініцы на 315 месцаў для транзітных вадзіцеляў.

СХОДЫ

## РЭЗЕРВЫ НАВУКОВАГА ПОШУКУ

Як палепшыць навуковае забеспячэнне аграпрамысловага комплексу, умацаваць сувязь навукі і вытворчасці, павысіць узровень і аддачу даследаванняў? Гэтыя праблемы абмяркоўваліся на агульным гадавым сходзе Заходняга аддзялення Усесаюзнай акадэміі сельскагаспадарчых навук імя Леніна, які адбыўся 10 сакавіка ў Мінску. Ім удзельнічалі акадэмікі і члены-карэспандэнты Усесаюзнай акадэміі і АН БССР, кіраўнікі партыйных і сельскагаспадарчых органаў, навукова-даследчых інстытутаў і вышэйшых навучальных устаноў Беларусі, а таксама рэспублік Савецкай Прыбалтыкі.

Кароткім паведамленнем аб выніках работы аддзялення за 1987 год сход адкрыў выконваючы абавязкі акадэміка-сакратара аддзялення А. Мурашка. А вось традыцыйнага для такіх мерапрыемстваў даклада не было: справаздачу аб рабоце аддзялення Усесаюзнай акадэміі сельскагаспадарчых навук удзельнікі сходу атрымалі загадзя і адразу ж прыступілі да яе абмеркавання.

Было адзначана, што перабудова ў аграрнай навуцы ідзе недастаткова актыўна.

Але сёння яскрава бачны шляхі павышэння эфектыўнасці аграрнай навукі. У Беларусі, напрыклад, ліквідацыя дубліравання даследчых праграм, перавод навукова-даследчых інстытутаў на гаспадарчы разлік і ацэнка іх дзейнасці па канчатковым выніку дазволілі скасаваць 15 падраздзяленняў, скараціўшы колькасць навукова-даследчых работнікаў на 490 чалавек, або на 12 працэнтаў. Сродкі, што вызваліліся, выкарыстаны для арганізацыі пры кожным навукова-даследчым інстытуце спецыялізаваных гаспадарчаразліковых падраздзяленняў па ўкараненню распрацовак у вытворчасць.

У рэспубліках заходняга рэгіёна хутка развіваюцца гаспадарчаразліковыя навукова-вытворчыя аб'яднанні і навукова-вытворчыя сістэмы. Зараз яны заняты выкананнем важнейшых галіновых навукова-тэхнічных праграм. Сярод прыярытэтных накірункаў навуковага пошуку — павышэнне натуральнай урадлівасці глебы за кошт мікробнага сінтэзу атмасфернага азоту, мікрабіялагічныя спосабы паляпшэння засваяльнасці грубых кармоў, генная інжынерыя ў жывёлагадоўлі, нетрадыцыйныя крыніцы энергіі.

СЕЛЕКЦЫЯ

## МЕДАЛІ ЗА «ДАБРО»

Сорт бульбы сярэднеранняга тэрміну паспявання «дабро», выведзены вучонымі Беларускага навукова-даследчага інстытута бульбаводства і пладаагародніцтва сумесна з селекцыянерамі Інстытута даследаванняў бульбы ГДР (г. Грос-Люзовіц), атрымаў высокую адзнаку ў раздзеле аграпрамысловага камітэта БССР на выстаўцы ў Маскве ў адным з павільёнаў ВДНГ СССР.

Галоўны камітэт выстаўкі ўзнагародзіў бронзавымі медалямі беларускіх селекцыянераў Івана Калядку, загадчыка аддзела селекцыі бульбы, і Алега Пузанкова, загадчыка аддзела насенняводства бульбы.

Сорт «дабро» сталовага прызначэння, валодае добрымі смакавымі якасцямі на працягу ўсяго тэрміну захоўвання, прыдатны для механізаванага вырошчвання ва ўмовах вытворчасці, забяспечвае ўрадлівасць на ўзроўні 350—450 цэнтнераў з гектара.

ГАНДЛЁВЫЯ КАНТАКТЫ

## ЭКСПАНУЕЦЦА Ў ГАНЕ

Нацыянальны дзень СССР праведзены на міжнароднай прамысловай выстаўцы, якая праходзіць у сталіцы Ганы.

Удзел у выстаўцы савецкага аб'яднання «Трактараэкспарт», якое дэманструе шырока вядомы трактар «Беларусь», іншае сельскагаспадарчае абсталяванне і інвентар, сведчыць аб новых магчымасцях пашырэння гандлёва-эканамічных сувязей паміж СССР і Ганай, падкрэсліў у сваім выступленні сакратар па пытаннях прамысловасці, навукі і тэхнікі Фрэнсіс Акуа. У Савецкага Саюза, які дабіўся за кароткі гістарычны тэрмін вялікіх навукова-тэхнічных дасягненняў, ёсць чаму павучыцца, адзначыў ён. Член ганскага ўрада выказаў глыбокую ўдзячнасць СССР за дапамогу ў падрыхтоўцы кваліфікаваных нацыянальных кадраў, перш за ўсё ў тэхнічнай галіне.

РОБАТЫЗАЦЫЯ

## МАТЭМАТЫЧНЫЯ ПРАГРАМЫ

Каля двух дзесяткаў робатаў сталі да станкоў на Мінскім маторным заводзе. Перадаючы «разумнай тэхніцы» частку металарэжучых аперацый, спецыялісты прадпрыемства задаліся мэтай максімальна механізаваць і аўтаматызаваць участкі з дробнасерыйнай вытворчасцю. У першую чаргу — у інструментальным і эксперыментальным цэхах, дзе асабліва хутка мяняецца наменклатура вырабаў. Каб паспяваць за гэтым рытмам, на заводзе стварылі сваю службу, якая распрацоўвае матэматычныя праграмы. Дзякуючы ёй, удалося поўнасцю загрузіць сучасныя станкі з лічбавым праграмным кіраваннем і больш эфектыўна выкарыстоўваць апрацоўчыя цэнтры як айчынных, так і зарубежных фірм. Пачалі выпускаць на прадпрыемстве і ўласныя станкі. Ужо выраблены першыя магутныя агрэгаты і выпрабавальныя стэнды. У перспектыве — асваенне і выпуск абсталявання для новых робататэхнічных комплексаў.

ГРАМАДСКАЕ ХАРЧАВАННЕ

## АБЕД У ТРОХ РЭСПУБЛІКАХ

Кароткага абедзеннага перапынку хопіць віцяблянам для таго, каб паспець «пагасціць» адразу ў трох прыбалтыйскіх рэспубліках. Для гэтага ім не прыйдзецца нават выязджаць за межы Віцебска: у цэнтры горада адкрыты кафэ-бістро з нацыянальнай кухняй. У «Даўгаве» прапануюць пакаштаваць апетытную латышскую салату, у «Дайнаве» частуюць смачнымі літоўскімі бутэрбродамі, і, нарэшце, «Стары Томас» запросіць ацаніць багатую калекцыю эстонскіх безалкагольных напіткаў і квасу.

Разам з прыбалтыйскімі архітэктарамі і дызайнерамі былі падабраны памяшканні і плошчы для новых кафэ ў старых парадных пад'ездах і паўпадвалах, разам і аформілі іх.

Ужо ў бліжэйшы час «падарожжы» ў Віцебску будуць больш «дальнімі». «Від на жыхарства» атрымаюць у горадзе над Дзвіной «прадстаўніцтвы» ўсіх саюзных рэспублік.

БЫТАВЫЯ ПАСЛУГІ



Жанчыны, якія працуюць у Жодзінскім швейна-трыкатажным аб'яднанні, шыюць вырабы для дзяцей. У мінулым годзе на прадпрыемстве адкрылі сваю майстэрню бытавых паслуг, дзе можна заказаць сукенку, джэмпер з тканін, што выпрацоўваюцца на фабрыцы, і для дарослых, якія тут працуюць.

Летась калектыў майстэрні аказаў паслуг на 40 тысяч рублёў. У бягучым годзе — будзе ў два разы больш. Ёсць намер стварыць на базе майстэрні атэлье.

НА ЗДЫМКУ: падабаецца абноўка швачцы-матарысты аб'яднання Марыне КОЛЕСАВАЙ (злева). Заказ яе выканала закройшчыца Жанна ЦЮЛЬМАНКОВА.

# ЧТО ВЫ ДУМАЕТЕ О ЛЮБВИ?

**С этим вопросом корреспонденты молодежной газеты «Московский комсомолец» обратились к ученикам и учителям нескольких школ.**

## ГОВОРЯТ УЧЕНИКИ

**Виталий МАЛЫХИН, 13 лет:** Что я думаю о любви? О любви мне думать еще рано. Я пока только дружу с девочками.

**Ирина СИЛАНТЬЕВА, 15 лет:** В шестом классе мне подруги даже бойкот объявили из-за того, что я дружу с мальчиками. Ну а как же жить без этого? Я лучше становлюсь, когда влюбляюсь. И мама моя хорошо относится к этому.

**Ирина ПЕТРОВА, 14 лет:** В нашем возрасте не может быть любви. Мы до нее не доросли.

**Ирина К., 13:** Любовь? Мне даже кино в половину десятого вечера не дают посмотреть. Я «Милый друг» из-под кровати смотрела вместе с собакой.

**Василий ЕКИМЕНКО, 15:** В восьмом классе я любил девушку. У нас были прекрасные отношения, но в школе начались сплетни, пересуды. Вызывали родителей...

**Игорь ЗУБКОВ, 17:** Признаюсь, я разочарован в женском поле. Откуда у девочек такой прагматический подход к любви? Не успели познакомиться, а уже спрашивают — кто у тебя папа, а есть ли машина? Критерий оценки — куда можешь повести: в кафе «Мороженое» или куда-нибудь посолидней. И женятся по любви сейчас редко. Хотя, конечно, все ожидают настоящего чувства.

**Лера ТИБЕТКИНА, 17:** Мужчины стали ненадежны, на них трудно положиться, они могут предать. На мой взгляд, идеал отношений — это любовь Марины Влади и Владимира Высоцкого. Жили в разных странах — и так любили.

**Ирина ЕВСЕЕВА, 17:** Для меня главное, чтобы мой будущий муж хорошо ко мне относился и мог меня обеспечить. А любовь проходит...

**Алексей СИДИЧКИН, 17:** Помню, в восьмом классе нам объявили, что следующий урок по этике и психологии семейной жизни будет посвящен любви. Тема всех волновала, мы приготовили кучу вопросов, а учительница только зачитала нам цитаты из разных книжек. Что же касается «откровений» — то мы в шестом классе больше знали.

## А ТЕПЕРЬ СЛОВО УЧИТЕЛЯМ

**Александр БЫКОВ, 50 лет, директор:** Поговорить о любви? А почему именно в нашей школе? У нас школа молодая, коллектив еще не установился.

**Ольга АЛЕКСЕЕВА: 24 года, заместитель директора:** Когда я слышу или читаю о том, что в школе преследуют за любовь, мне кажется это дикостью. Ведь даже работать в тех классах, где есть пары, легче: ребята там дружелюбнее, общительнее.

**Вероника КАСЯКИНА, 27: лет, учитель словесности:** Когда я училась в школе, учителя пресекали всякие отношения, выходящие за рамки «товарищ по школе». Сколько было из-за этого трагедий... Я же к любви отношусь очень серьезно. Мое глубокое убеждение: именно любовь формирует личность, а затем уже труд и литература.

**Раиса КРЕЧМЕР, 55 лет: заместитель директора:** Я лично верю в настоящую крепкую дружбу со школьной скамьи. А любовь для них заключается в вопросе: жить до окончания школы или после.

**Вита ЧЕРКАСОВА, 37 лет, методист районного отдела народного образования:** Пусть любят друг друга, но только, чтоб детей не было.

**Галина ГАБУНИЯ, 42 года, директор школы:** Любовь подростков — явление столь же естественное, сколь и необходимое. Да, в большинстве случаев школьные пары недолговечны, но именно в этот период у ребят формируется модель будущих отношений с любимым человеком.

**Валерий ГЛУШИН, 50 лет, учитель труда:** Учителя говорят, что надо учиться. Надо учиться, но и любить тоже надо.



**Четверть столетия существует Могилевский машиностроительный институт — один из крупнейших учебных центров республики. 14 тысяч его выпускников успешно трудятся в разных отраслях народного хозяйства, занимаются научной работой. Сегодня в институте 31 кафедра с лабораториями, оснащенными современным оборудованием. Их сотрудники расширяют творческие связи с промышленными предприятиями по внедрению научных исследований в производство. Привлекаются к этой работе и студенты. Чтобы стать настоящим инженером, нужно прежде всего уметь мыслить, применять свои знания на практике.**

**НА СНИМКАХ: будущие инженеры-системотехники А. ЛОГУТЕНКО и А. ЛАЗБЕНЕВ; студентка IV курса механического факультета Т. СИЛИНА; в лаборатории элементов и схем вычислительных систем.**

**Фото Н. АМЕЛЬЧЕНКО.**





# ПРОБЛЕМЫ СЕЛЬСКОЙ ИНТЕЛЛИГЕНЦИИ

**(Данные социологического опроса, опубликованные белорусской молодежной газетой «Знамя юности»)**

52 процента опрошенных составили специалисты сельского хозяйства республики — агрономы, полеводы, другие специалисты и 48 процентов — учителя школ, работники культуры.

ПЕРВОЙ и наиболее важной проблемой и те и другие назвали неполное использование потенциала молодой сельской интеллигенции в профессиональной сфере. В полной мере свои способности и знания реализуют только 18 процентов специалистов и 19 процентов — педагогов. Полностью проявить себя в отдельных случаях удается соответственно 19 и 53 процентам опрошенных.

Половина и специалистов, и педагогов заявили, что могли бы работать с большей отдачей при «изменении условий». Говоря об этих условиях, специалисты среди основных причин, мешающих делу, указали плохую организацию труда, большой объем канцелярской работы, недостаток информации по специальности, ограничение самостоятельности. Педагоги — избыток канцелярской работы, бытовые неудобства.

В качестве ВТОРОЙ проблемы молодой сельской интеллигенции многие опрошенные назвали свою слабую социальную подготовленность к труду в сельской местности. Среди них только 22 процента педагогов и 27 процентов специалистов работали в той деревне, где родились. Остальные — приезжие, многие — из города.

ТРЕТЬЯ проблема современной молодой интеллигенции села связана с недостатками в организации быта, ограниченными возможностями использования внерабочего времени. Своим досугом не удовлетворены 33 процента опрошенных педагогов и 35 процентов — специалистов. Жилищными условиями — соответственно 34 и 13 процентов.

## ПРОЕКТЫ В МОЛОДЕЖНОМ СТИЛЕ

Проблема проектной документации перестала волновать многие предприятия, исчерпавшие или вообще не имеющие лимита на ее подготовку. В случае острой необходимости их теперь выручит новый партнер — хозрасчетное Студенческое проектное бюро Белорусского политехнического института (СПБ БПИ) в Минске. Только в первые дни нового года молодой творческий коллектив принял более десяти заказов на проектирование объектов социально-культурного и бытового назначения.

— Мы намерены радовать заказчика новизной решений, — говорит научный руководитель Студенческого проектного бюро, доцент кафедры архитектуры жилых и общественных зданий В. Аладов. — Студенты не обременены пресловутым «валом», не гоняются за объемными, прибыльными объектами. Первый заказ на проект районного колхозного крытого рынка будет сдан уже к концу марта. Строительство объекта начнется в этом году во Фрунзенском районе Минска. Бюро планирует выпускать документации на 240 тысяч рублей ежегодно.

Заработанные деньги будут перечисляться на счет института. Основная задача СПБ — обучение студентов всех строительных факультетов практическим навыкам реального проектирования и подготовки чертежей. В отличие от традиционной вузовской проектной организации, где студентам поручали только работу техников-чертежников, здесь они будут играть главную роль.

## НА ОТДЫХ — В «ЮНОСТЬ»

В уютное кафе превратилась благодаря инициативе молодежи производственного объединения по выпуску литейного оборудования в Пинске обычная рабочая столовая. Все оригинальное внутреннее убранство «Юности» — так назвали кафе — сделано руками самих ребят в свободное от работы время. И теперь здесь можно не только вкусно пообедать, но и побывать вечером на танцевально-развлекательной программе, а в выходной день за сладким столом отметить семейное торжество.

## ЗА ЗДОРОВЬЕМ — В «ГЕРКУЛЕС»

Не торопятся, как раньше, после окончания смены домой многие рабочие Волковысского литейно-механического завода. А «виноват» в этом спортивно-оздоровительный комплекс «Геркулес». Инициатором его создания стала молодежь предприятия.

В выходные дни, на субботниках юноши и девушки переоборудовали просторный подвал. Под руководством инженеров изготовили в заводских цехах специальное спортивное оборудование, тренажеры. Комплекс работает без выходных. Шесть дней в неделю за зарядом здоровья, бодрости и силы сюда приходят взрослые. К их услугам комната шашек и шахмат, теннисный и игровой залы. Другим пришлись по душе тренажерная и зал атлетической гимнастики.

## ЧЬЯ МАШИНА ЛУЧШЕ?

Опытный образец нового интегрального трактора поручено собрать бригаде молодых слесарей механосборочных работ, которую возглавляет Валерий Башеев. Этот коллектив считается одним из лучших на знаменитом Минском тракторном заводе, имеет много благодарностей и наград от администрации предприятия и общественных организаций. Экспериментальная машина, которую соберут молодые рабочие, будет проходить испытания вместе со своими собратьями, изготовленными на Липецком и Камском тракторных заводах. В их ходе и выявят, чья машина лучше.




## УРЫЎКІ З ГІСТАРЫЧНАЙ АПОВЕСЦІ

**Мар'ян ВІЖ**

**(Працяг. Пачатак у №№ 9, 10).**

Рабы доўга маўчаў, пасля, глытаючы словы, паведаміў пра іх бацюшку, айца Кірылу, як той расказваў аб прыкметах царскіх ворагаў-мяцежнікаў. Значыць, цяпер яму, Сямёну, за гэтыя вось цацкі належыць атрымаць ніяк не меней дваццаці пяці рублёў срэбрам ды яшчэ царскі медаль на шыю...

Ротмістр мусіў мяняць тактыку. Ён наліў Рабому ёмкую чарку гарэлкі, па-змоўніцку паляпаў таго па плячы і загаварыў ужо іншым, падабрэлым голасам:

— Дык ты, праваслаўны, і чалавека таго, пэўна, ведаеш, у якога падобныя вось рэчы маюцца, паказаць нам яго зможаш?

— Чаму ж не? За гэтым сюды прывалокся. Але спачатку грошы, і запішыце ўсё ў паперку, каб атрымалася па чэсці, каб мне, значыць, царскі медаль выдалі. Калі можна, ваша сіяцельства, яшчэ чарачку,— скончыў просьбаю Рабы.

— Раздурэлі вы тут. Малі бога, што часу на дазнанне не маем,— без сярдзітасці азваўся ротмістр, падсоўваючы служцы гарэлку,— сёрбай! І выкладвай чыстую праўду, са мной не жартуюць, міргну толькі — на катаргу загрыміш. Пачынай. Я ж услед пісаць буду. Не хвалюйся, атрымаеш і свае грошы. Ты, здаецца, іх сумленна заслужыў...

Рабы гаварыў і гаварыў. І толькі на апошняе пытанне: «Якія звесткі аб сабе пакінуў госць у рэгістрацыйным журнале?»— ён нічога пэўнага паведаміць не змог. Развёўшы рукамі, вінавата прызнаўся:

— Ваша сіяцельства, шаноўны паночку, я ж па-пісанаму не магу чытаць, а ў карчме апроч нас — нікога.

— ...Ну добра, здаецца, матэрыялу досыць. Хопіць для пратакола, рапарта і для арышту,— сказаў ротмістр, разглядаючы свае запісы, сярод якіх ужо быў нават схематычны малюнак плана карчмы, падыходаў да яе і ўсяго вялізнага навакольнага падворку, што клінам выцягнуўся ледзь не на цэлую вярсту.

Неўзабаве ротмістр скончыў на гербавым бланку складаць адпаведны пратакол і пачаў адлічваць Рабому звонкія і важкія срэбраныя манеты. Твар служкі прасвятлеў, вочы ззялі. Яму ніяк не верылася: «Няўжо не сон?! Няўжо сапраўды вось гэтыя дваццаць пяць рублёў — цэлая карова — цяпер мае?» За ўсё жыццё ў Рабога нават часткі такой фантастычнай сумы ніколі не было. А тут — на табе, як з неба!

Ротмістр падсунуў пратакол Аўдзееву:

— Падпішыце, пан паручнік, кожны аркуш дакумента, бо на крыжык нашага з вамі добраахвотнага памочніка-асведаміцеля маё начальства казённых рубелькаў не спіша. У нас — парадак. А ты, галубочак,— жандар звярнуўся да Рабога, — пачакай трохі за дзвярыма. Зараз павядзеш.

Толькі тут да юнай, гарачай галавы і чыстага сэрца Аўдзеева дайшло, што ён, высакародны, патомны рускі афіцэр, упершыню запэцкаўся звычайным, подленькім паліцэйскім дазнаннем, дзе за грошы прадалі жыццё чалавека. А калі яму даюць яшчэ нешта на подпіс, гэта ўжо не прысутнасць, а прыкрае саўдзельніцтва ў жандарскіх справах. Ад усведамлення ўласнай нізкасці, свайго падзення Аўдзееву стала балюча і так горка, што ён ахвотна зараз праваліўся б скрозь зямлю. Гэта здавалася яму адзіным паратункам, збавеннем.

Але цуды, як кожны часта пераконваецца, на нашай планеце — рэч немагчымая, і паручнік, не бачачы перад сабою нічога, размашыста падпісаў паперы.

— Вось і добра, дарагі Павел Аляксандравіч,— ласкава пачаў ротмістр, нібы спачуваючы, безумоўна, вядомым яму душэўным пакутам паручніка.— А зараз нам з вамі, калега, належыць тэрмінова абмеркаваць сумесныя дзеянні. Часу маем, падкрэсліваю, вельмі мала...

Але Аўдзееў зусім не слухаў ротмістра, нерухома ўціснуўся ў крэсла, сядзеў, як пабіты, спрабуючы не заўважаць, не чуць жорсткага і хітрага ў сваёй пачварнай прадбачлівасці субяседніка. Ён не сумняваўся: яшчэ хвіліна — і не вытрымае: яго пачне тузаць, тузаць так, што выверне вантробы.

Жандар і на гэты раз тонка ўлавіў сітуацыю, наліў Аўдзееву келіх каньяку, угаварыў выпіць і пачакаў, пакуль той супакоіцца. Было відаць, што ротмістр атрымлівае незямную асалоду, паступова ўцягваючы паручніка ў сваё павуцінне, з якога выйсця ўжо нікому няма.

— Справа вось у чым, дарагі Павел Аляксандравіч,—працягваў ротмістр, — не думайце, калі ласка, што мяне накіравалі ў Ігумен з-за недаверу начальства да вас ці каб разбіраць прычыны калецтва вашага пьяніцы, капітана Кругавых. Я сапраўды займаўся гэтай справай, але яна — шырма. Галоўнае — зусім іншае. Паводле нашых звышсакрэтных звестак, атрыманых ад надзейнага агента з віленскіх інсургенцкіх колаў, стала вядома, што ў паўночнай частцы Міншчыны — на Барысаўшчыне ці на Ігуменшчыне — павінен быў з'явіцца новы акруговы камісар ад нелегальнага кіраўніцтва, так званага Літоўскага правінцыяльнага камітэта. А асоба гэта цікавая, з шырокімі паўнамоцтвамі і надзвычай небяспечная, па наяўных звестках — радыкал-«чырвоны», з тых, што спрабуюць перацягнуць на свой бок мужыка, каб вынішчыць не толькі царскую ўладу, а і тутэйшых памешчыкаў. За гэта «чырвоных», дарэчы, люта ненавідзяць мясцовыя ўплывовыя колы. Ненавідзяць да такой ступені, што гатовы нават з намі, з уладамі, дамовіцца, абы свае маёнткі з рук не выпусціць. Я прыглядаюся, бачу і веру: згоды паміж варожымі групоўкамі ніколі не будзе і гэта, як і надзейнасць мужыка, дасць нам шчаслівую мажлівасць трымаць пальцы на горле мяцяжу. Пераловім фанатыкаў з друкарнямі, трохі — больш для гуку — пастраляем па лясах, адных мужыкоў запалохаем, таго-сяго з іх — купім, з панамі — дамовімся, і канец справе. Канец без вялікай крыві, без бунту. Вядома, асобных — павесім, схаваем за кр[illegible] прапусцім праз этапы. Што зробіш[illegible]с сякуць — трэскі ляцяць.

Здаецца мне: не ўцячэ з карчмы камісар, схопім. Збірайцеся, пан паручнік!

Ротмістр выклікаў з калідора ардынарца, загадаў:

— Узняць па трывозе дзесяць салдат, але ціха, каб нават ноч не пачула. Кожнаму — па [illegible] чаркі гарэлкі і, апранутых у шыня[illegible]ез зброі — сюды.

Калі яны засталіся ўдваіх з Аўдзеевым, ротмістр сцісла паведаміў план і асаблівасці будучай аперацыі:

— А зробім так (аб карчме вы ўжо чулі): я з ардынарцам пастукаю ў дзверы другога паверха, дзе спіць камісар. Пяцёра салдат будуць чакаць на двары пад вокнамі, пяцёра — блакіруюць залу карчмы. Пісталеты — толькі ў вас і ў мяне. Вы затоіцеся на ганку і, што б там у нас наверсе ні адбылося, паста не кідайце. А калі камісар паспрабуе збегчы праз акно—страляйце ў каня, біце прама каню ў грудзі, салдаты наваляцца на гада і скруцяць...

А там і я падаспею з гэтымі вось надзейнымі бранзалетамі,— ротмістр з ухмылкаю выцягнуў з шуфляды свайго рабочага стала бліскучыя наручнікі і масіўныя, злучаныя адзін з адным каваным ланцугом нажныя кайданы. Патрос імі, услухоўваючыся ў прыемны яго сэрцу звон, і тэатральна дадаў:

— Уявіць цяжка, Павел Аляксандравіч, у якіх нясцерпных умовах змагаемся з ворагамі прастола. Нават наручнікаў добрых у начальства не дапрасіцца, бо, кажуць, атрымліваем іх аж з самой Англіі. У нас як след нічога рабіць не ўмеюць. Вох, адсталая ты, наша Расія-матухна, гаротніца ты...

З калідора пачуліся прыглушаныя галасы. Зашпільваючы шынель, ротмістр з чаканнем зірнуў на Аўдзеева, які папярэдняму нерухома сядзеў і быццам нікуды не збіраўся.

— Павел Аляксандравіч, у нас мала часу! Што з вамі?

— Нядобра мне. Гэта, ведаеце, яшчэ з корпуса: як хваляваццa пачну, дык кроў носам кідаецца. І цяпер такое прадчуванне, што вось-вось паліецца. Калі можаце, без мяне ідзіце.

— Дазволю напомніць, пан паручнік: Заходні край лічыцца на ваенным становішчы, мы з вамі, значыць, як на вайне. А вы, прабачце, не дзеўка красная ў святліцы, на вас не сарафан, а мундзір рускага афіцэра. Таму, беручы пад увагу надзвычайныя абставіны, абавязаны мне — старшаму па чыну — ад аднаго слова падпарадкавацца. Ды і як жа пойдуць салдаты на аперацыю, дзе іх можа сустрэць смерць, калі ротны камандзір у найадказнейшы момант кіне іх? Няўжо спалохаліся? — скончыў абразаю ротмістр і працягнуў Аўдзееву шынель.

Той не адказаў нічога. Яшчэ больш збялеў, устаў, адвярнуўся, пачаў збірацца, сціснуўшы зубы: што зробіш — служба не дружба.

«Вось так лепей, галубочак. А то прывыклі, чысцюлі ў белых пальчатках, што толькі нам, жандарам, бегаць за злачынцамі, што толькі нам выконваць любую службу, якую, як кажуць, бог пашле. Пачакай, і ты белыя пальчыкі гразею запэцкаеш. Ужо запэцкаў, сам не заўважыўшы. Гэта ў нас хутка, і дарогі назад няма. А вагацца пачнеш — я паклапачуся, пад суд гонару, пасля пад палявы суд падвяду»,— зларадна думаў ротмістр, калі яны па бязлюднай гарадской вуліцы вялі свой нешматлікі атрад...

Як на вялікім свяце, адчуваў сябе толькі ротмістр. Ён са смакам, з падрабязнасцямі, ад якіх субяседніку рабілася млосна, нягучна расказваў Аўдзееву аб публічных пакараннях смерцю некалькіх дзяржаўных злачынцаў, сведкам чаго пашчасціла раней быць за мяжой. А скончыў так:

— Здаецца, не памыл[illegible]: не абыдзе смерць нашага з вамі віленскага камісара-мяцежніка. Ведаеце, Павел Аляксандравіч,— жандар дакрануўся далонню да рукава шыняля паручніка,— я даўно не знаходзіў адказу на даволі простае пытанне, якое неаднойчы сам сабе ставіў: чаму шыбенікі, з тых, якія дзёрзка адмаўляюцца прыма[illegible]ерць у спецыяльным меху-саване, [illegible]лядаюць пасля гэтага спакойна. А зараз вось нечакана дайшло: гэта, мабыць, таму, што ў апошнія хвіліны яны моляцца і боская благадаць ахінае іх, прыходзіць ачышчэнне душы. І адразу — імгненны канец. Ніводнай крывінкі не відно, матляюцца яны, свежанькія, на вяроўках. Паверце, ну, як жывыя. Вельмі шкада, што ў нас пакуль такія вось павучальныя відовішчы, на жаль, рэдкасць...

— Сціхніце, пан ротмістр, прашу вас, у імя ўсяго святога, прашу,— пачаў маліць Аўдзееў...

Рабы весела цялёпаўся ззаду за ўсімі. Яму хацелася, калі не спяваць, дык хоць насвістваць, але разумеў, што няможна. «Заўтра ж куплю кароўку. Плюну на праклятую ранду нехрысця Гіцкі, вярнуся гаспадаром у сваю хатку. Зажыву без бяды, з сям'ёю, як усе нашы мужыкі, хопіць людзям кпіць з мяне»,— строіў ён радасныя планы. Але ці то ад холаду, ці ад пачутых жудасных ротмістравых слоў аб шыбеніцах хмель і ружовы настрой знікалі. І чым карацела дарога да карчмы, тым цяжэй перасоўваліся ногі Рабога. Яны не слухаліся, запляталіся, былі як не свае, хоць хмель ужо прайшоў.

Рабы памацаў грошы ў кішэні. І дзіва: дарагія манеты чамусьці здаліся яму халаднейшымі за лёд. Раптам Рабы выразна пачуў голас свайго абуджанага сумлення, якое вечна жыло і да скону часу жыць будзе ў сэрцах простых людзей: «Што ж я нарабіў! Прадаў жыццё жывога чалавека за грошы! Сабака я!..» Упершыню на сваім вяку ён нечакана спасціг мудрую рэч, што грошы не заўсёды нясуць шчасце. Потым Рабому прыгадаўся забіты ім у двары карчмы Грэсь і Грэсева кроў, што капала на дзівоснага колеру лёд. На счарнелым, як на старым распяцці, твары Рабога з'явіліся гарачыя слёзы. «Погань я, забойца. Забойца дзецюка з карчмы і Грэся. Няма мне даравання!..»

Як толькі атрад наблізіўся да зачыненай брамы карчмы, начны спакой разарваўся звонкім, дружным і злым брэхам. Вартавыя сабакі даўно адчулі гібель свайго сябра, старога Грэся, узбуджана грымелі ланцугамі ў насцярожаным чаканні чужых.

Ротмістр, адкінуўшы зусім непатрэбныя зараз свецкія манеры, выляўся і рашуча спыніў усіх:

— Салдаты, у карчме затаіўся небяспечны злачынца, польскі агент з тых вылюдкаў, якія горш за канакрадаў і рабаўнікоў. Ён падбухторвае цёмных людзей бунтаваць супраць нашага з вамі цара за тое, што памазаннік боскі літасціва дараваў мужыкам волю. Заўтра кожны з вас атрымае па пяць рублёў срэбрам на нос ды яшчэ наверх па чвэрці гарэлкі на брата. Кожнаму дамо адпачынак аж да свята Благавешчання. Амаль цэлы месяц будзеце толькі піць і гуляць! А зараз слухаць загад,— ротмістр узяўся дзяліць салдат на групы,—вы пяцёра і ардынарац — пабяжыце са мной у памяшканне. Чацвёра з унтэрам — пад вокны другога паверха, пад тыя, што злева ад ганка. Вы, Аўдзееў,— як дамовіліся. Мужык,— ён звярнуўся да Рабога, забыўшы нават ягонае імя,— табе давяраю вартаваць браму. Глядзі мне!

Паходні запальваць па маёй камандзе. Усім памятаць: агента не біць, хапаць толькі жывога. З намі цар і бог! Па сваіх месцах! Наперад!

Госць ужо каля гадзіны не спаў. Адразу пасля вячэры яго ахапіла нясцерпная зморанасць, разбалелася галава, кідала ў пот, і ён на кароткі час праваліўся, быццам у бездань. Хутка расплюшчыў вочы, пабудзіў яго не так сабачы брэх, як трывожнае, назойлівае прадчуванне бяды, той незваротнай бяды, якая ўжо на парозе.

Ён хуценька апрануўся і насцярожана прыпаў да шкла, углядаючыся ў цемру. Сабакі рвалі глоткі мацней і мацней. Не выклікала сумненняў, што на падворку хтосьці ходзіць. Прычым не адзін, бо ўнізе зданямі шастала мноства постацей.

«Салдаты!» — беспамылкова вызначыў пастаялец. Ён не разгубіўся, не спалохаўся, наадварот, рабіў усё так, быццам загадзя падрыхтаваўся. Калі з лесвіцы пачуўся пагрозлівы тупат, вялізны стол у пакоі ўжо быў упрытык падсунуты да дзвярэй, а на стале грувасціўся ёмісты, як куфар, багажны пакунак госця.

Абганяючы астатніх, наверх узнімаліся двое: ардынарац, за ім ротмістр з пісталетам напагатове. Перад самымі дзвярыма ротмістр, выглянуўшы з-за надзейнага шчыта — шырокай спіны аслупянелага ад страху ардынарца, гучна крыкнуў:

— Загадваю адчыніць! Загадваю адчыніць! Супраціўленне не мае сэнсу. Карчма акружана ротай салдат. Я — оберафіцэр корпуса жандараў, ротмістр Калягін. Адчыняйце, яшчэ міг — і пачнём страляць! Хочаце жыць — адчыняйце.

Нейкі час ніхто не адклікаўся. Нарэшце праз дзверы данёсся заспаны голас чалавека:

— Што яшчэ за непаразуменне? Дайце запаліць свечку і апрануцца. У мяне пашпарт і належныя дарожныя дакументы па ўсёй форме.

Ротмістр чакаў стрэлаў, засланіўшыся ад кулі мяцежніка салдатам, а атрымаў звычайны, спакойна-пакрыўджаны адказ упэўненага ў сабе чалавека, паднятага сярод ночы. Ён круціўся на месцы, не ведаючы, што рабіць далей: высаджваць дзверы ці чакаць.

Марудна цягнуліся хвіліны. Раптоўнасць, на якую разлічваў жандар, а з ёю і ягоная перавага ў ініцыятыве паступова страчваліся, і гэта выкарыстаў госць. Ён, не раздумваючы, выхапіў нож, успароў ім палатняны верх вялізнага пакунка, пачаў жменямі сыпаць адтуль на стол порах. Затым, не марудзячы, паднёс запалены сернік да краю абруса, а сам схаваўся, уціснуўшыся ў прамежак паміж печчу і сцяною. Ён спадзяваўся, што порах узарвецца, адмяце жандара ад дзвярэй, на гук з двара ў карчму збягуцца салдаты, якія, скарэй за ўсё, чакаюць зараз пад вокнамі. І, такім чынам, шлях праз вакно да каня, да выратавання адкрыецца...

Яркая, як сонца, успышка ўвагнала ў жах насцярожаных салдат. Асляпляльнае святло на адзін толькі няўлоўны міг апярэдзіла аглушальна-грымотны выбух, які скалануў памяшканне. Здрыганулася ўсё: ад валуновага падмурку да вільчака, што лунаў над закрылінамі даху. У поцемках ніхто не бачыў, як дзверы пакоя, сарваўшыся з завесаў, імгненна насцеж расчыніліся. Адкінутыя магутнай выбуховай хваляй, яны збілі з ног ардынарца з ротмістрам, з размаху разануліся аб пругкія парэнчы, зрыкашэцілі ўгару, зачапіліся там за комін, з трэскам бразнуліся ў падгнілую, чорную бэльку столі і абваліліся на лесвіцу. Зверху пасыпаліся цагліны, атынкоўка, сажа. Няроўныя канцы перабітай бэлькі скрануліся з месца, раз'ехаліся, абвіслі, гайдануліся раз-другі, як маятнікі, і бухнуліся на галовы салдат. Усё захісталася, захадзіла ходырам. А раскацістае рэха, што ўварвалася праз выбітыя шыбы, узмацніла спусташальнасць разбурэння.

**(Заканчэнне будзе).**

## ФОНД КУЛЬТУРЫ: ВЫНІКІ ГОДА ДЗЕЙНАСЦІ

# ЗАХОЎВАЦЬ, ЗАСВОЙВАЦЬ, ПАМНАЖАЦЬ

Неяк пад вечар пазванілі знаёмыя: «Сёння ў Беларускім фондзе культуры пасяджэнне грамадскай камісіі «Вяртанне». Будуць вучоныя, літаратары, моладзь. Есць сэнс схадзіць». Нядоўга думаючы, я адправілася ў Троіцкае прадмесце, дзе ў сціплым памяшканні размясцілася нядаўна створаная арганізацыя.

— Мы наіўныя людзі, калі спадзяёмся, што без усялякіх намаганняў з нашага боку з усяго свету «паплывуць» дарункі, пачнуць вяртацца на Радзіму нацыянальныя каштоўнасці, — пачула яшчэ ад уваходу ўстрывожаны голас прамоўцы.

Гаварыла, як мне растлумачылі, мастацтвазнавец, музейны работнік. Яна працягвала:

— Дзесяткі гадоў вядуцца размовы пра крыж Ефрасінні Полацкай, выраблены славутым полацкім майстрам Лазарам Богшам у XII стагоддзі. Гэта каштоўная рэч, вывезеная з Беларусі ў час апошняй вайны, як стала вядома, нядаўна была перапрададзена з ЗША ў Аўстралію.

Следам за жанчынай у размову ўключыўся гісторык.

— Давайце вызначым накірунак пошуку. Скажам, у 1920 годзе белапольскія войскі вывезлі 36 скрыняў з кнігамі, гравюрамі і нотамі. Куды трапілі гэтыя рэчы? На першым этапе важна вызначыць іх месцазнаходжанне, потым — стан і магчымасць вяртання арыгінала ці копіі на Радзіму.

Імгненна пасыпаліся пытанні да прамоўцы. Прысутныя ўдакладнялі тую ці іншую інфармацыю, рабілі паведамленні, выступалі з прапановамі. Сакратарка ледзь паспявала запісваць.

Да самай ночы працягваліся гарачыя дэбаты ў фондзе культуры. У нязмушанай атмасферы пасяджэння, у сутыкненні розных думак і поглядаў, уласна кажучы, і быў пакладзены пачатак распрацоўкі праграмы пошуку і вяртання на Радзіму шматлікіх твораў мастацтва, архіўных дакументаў, стварэння картатэкі гэтых каштоўнасцей.

Пазней у фондзе збіраліся на свае пасяджэнні іншыя камісіі, члены якіх — археолагі, рэстаўратары, мастацтвазнаўцы, архітэктары таксама вызначалі праграму дзеянняў, аб'ядноўваліся для вырашэння актуальных і неадкладных задач нацыянальнай культуры.

Які ж плён работы арганізацыі, што так актыўна пачала сваю дзейнасць год назад?

Спачатку некалькі выказванняў пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, старшыні Беларускага фонду культуры **Івана ЧЫГРЫНАВА.**

— Дэвіз фонду — «Захоўваць, засвойваць, памнажаць» у поўнай меры вызначае нашу палітыку і прынцыпы дзейнасці. З аднаго боку, мы акцэнтуем увагу на мінулым, з другога — на сучаснай актуальнай праблематыцы культуры.

— Я добра стаўлюся да «нефармальных» аб'яднанняў моладзі, якіх нямала нарадзілася і дзейнічае ў апошні час. У большасці сваёй яны робяць карысную справу. Таму фонд будзе дапамагаць ім.

— Адной са сваіх задач фонд лічыць выхаванне людзей у духу адданасці Радзіме. Адна справа — нацыянальныя пачуцці, нацыянальная годнасць, зусім іншае — нацыяналізм. Мы супраць таго, каб ідэі патрыятызму змешваліся з нацыяналізмам. Сапраўднай інтэлігенцыі, у тым ліку і беларускай, быў заўжды чужы нацыяналізм.

— Я не супраць рок-музыкі. Але няхай будзе розная музыка: на ўсе густы і на ўсе ўзросты.

— ЮНЕСКА аб'явіла 1988 — 1998 гады дзесяцігоддзем культуры. Гэта знамянальна. Асобе проста неабходна культура, каб гаспадарыць на зямлі, асвойваць космас, захоўваць, развіваць і перадаваць духоўныя каштоўнасці нашчадкам.

### ФАКТЫ І ЛІЧБЫ

Цяпер пра зробленае мовай фактаў і лічбаў. За год у рамках Беларускага фонду культуры арганізавана шэсць абласных аддзяленняў і адно гарадское — мінскае. Кожнае з абласных канцэнтруе ўвагу на найбольш значных для рэгіёна момантах культуры. Напрыклад, гамяльчане наладжваюць Мележаўскія чытанні на радзіме славутага беларускага пісьменніка. Другі іх клопат — парк Луначарскага, дзе мясцовыя актывісты думаюць стварыць літаратурна-мастацкі цэнтр. У Віцебску фонд культуры ўзяў на сябе клопат аб Заходняй Дзвіне: разам з расійскім і латышскім фондамі культуры будзе распрацавана праграма «З варагаў у грэкі». Зроблены захады па стварэнню «Музея Віцебскай мастацкай школы». Гродна хоча ўвекавечыць памяць свайго земляка Кастуся Каліноўскага. Брэст мае задуму стварыць дыяраму абароны Брэсцкай крэпасці.

Распрацаваны асноўныя напрамкі дзейнасці фонду па выкананню доўгатэрміновай праграмы «Спадчына».

Ужо за няпоўны год у Беларускім фондзе культуры адбылося шмат цікавых і карысных сустрэч, гутарак, пагавораў з рознымі ўстановамі і дзеламі калеамі.

Нарэшце, адбылося самае галоўнае: па-першае, фонд культуры канчаткова сфарміраваўся як народная добраахвотная арганізацыя. Падругое, вакол фонду пачала складвацца сістэма самадзейных аб'яднанняў. Усё больш актыўна далучаюцца да яго работы розныя творчыя калектывы. Ствараюцца саветы садзеяння фонду. Першымі стварылі такія саветы калгасы «Чырвоны сцяг» Валожынскага і «Барацьба» Пухавіцкага раёнаў Мінскай вобласці. Да іх далучыліся калектывы мінскіх заводаў — станкабудаўнічага імя С. Кірава і аўтаматычных ліній імя П. Машэрава. Члены саветаў свой удзел у дзейнасці фонду не абмяжоўваюць грашовымі ўкладамі, якія, дарэчы, ідуць строга на названыя мэты. Актывісты дапамагаюць збіраць матэрыялы для краязнаўчых музеяў і куткоў, удзельнічаюць у стварэнні карцінных галерэй, у арганізацыі выставак і канцэртаў. А вось удзельнікі студэнцкага будаўнічага атрада «Нашчадкі» з Мінскага педінстытута імя Горкага заробленыя летам грошы перадалі на ўзвядзенне надмагільнага помніка маці Максіма Багдановіча.

Характэрна, што ў дзейнасці фонду ўдзельнічаюць не толькі прафесійныя мастацкія калектывы, але і самадзейныя. Асабліва гэта выявілася, напрыклад, у вечарах, прысвечаных 150-гадоваму юбілею Кастуся Каліноўскага. Сродкі, сабраныя ад гэтых выступленняў, пойдуць на рэстаўрацыю Верхняга горада ў Мінску.

Сярод падтрыманых фондам ініцыятыў грамадскасці — адраджэнне традыцый дабрачыннай дзейнасці, сродкі ад якой пойдуць на стварэнне філіялаў музеяў, рэстаўрацыю гістарычных помнікаў, узвядзенне помнікаў у гонар вялікіх майстроў айчыннай культуры і гэтак далей.

У ліку першых падтрымаў Беларускі фонд культуры сваім укладам ансамбль «Верасы». Ён выязджаў на гастролі ў Наваполацк і даў два дабрачынныя канцэрты, выручка ад якіх пайшла на аднаўленне і рэканструкцыю гістарычнага цэнтра Полацка. У Гомелі ўпершыню ў рэспубліцы былі праведзены аўкцыён карцін, сродкі ад яго накіраваны на стварэнне літаратурна-мастацкага цэнтра. Свой уклад у фонд унеслі футбалісты. Сродкі ад праведзенага ў Пінску матча накіраваны на распрацоўку праекта дыярамы «Брэсцкая крэпасць-герой».

Праблемы аднаўлення помнікаў нацыянальнай архітэктуры арганічнай часткай увайшлі ў планы мерапрыемстваў фонду. Шматлікія войны пакінулі на беларускай зямлі крывавыя сляды. Былі разрабаваны культурныя каштоўнасці народа, разбураны шматлікія старажытныя помнікі дойлідства. Фонд культуры распрацоўвае цяпер разам з Міністэрствам культуры БССР і таварыствам аховы помнікаў праграму іх аднаўлення. Гэта тычыцца не толькі такіх буйных гарадоў, як Мінск, Полацк, Гродна, Магілёў, Мсціслаў, але і іншых. Будуць адноўлены і сельскія цэрквы, што з'яўляюцца помнікамі архітэктуры. Тут гэта адназначна падтрымку фонду мітрапалітам Мінскім і Беларускім Філарэтам. Частка сродкаў, што паступае ад прыхаджан, таксама ідзе на рахунак № 702.

З Беларускім фондам культуры пачала супрацоўнічаць моладзь з такіх нефармальных аб'яднанняў, як «Тутэйшыя» і «Талака». Яна будзе ўдзельнічаць у археалагічных экспедыцыях, у аднаўленні помнікаў архітэктуры, у зборы мастацкіх каштоўнасцей.

У Беларусі многае зроблена па зборы народнай творчасці. Убачыла свет акадэмічнае выданне фальклору. Але яно, натуральна, не змясціла ўсяго, што створана народам.

Развіццё народных традыцый і звычаяў — адзін з клопатаў фонду культуры. Ён займаецца адраджэннем народных святаў «Калядкі», «Гуканне вясны» не толькі ў вёсках, але і ў гарадах.

У планах фонду культуры таксама адраджэнне народных мастацкіх рамёстваў. Некаторыя з іх знаходзяцца на мяжы знікнення, што было б вялікай стратай для духоўнай культуры. Таму фонд мае намер стварыць свае прадпрыемствы, якія, развіваючы народныя мастацкія рамёствы, будуць служыць яго матэрыяльнай базай.

Заснаваны спецыяльныя стыпендыі СФК для маладых мастакоў, акцёраў, літаратараў, музыкантаў.

На рахунку фонду (№ 702) ужо больш за 100 тысяч рублёў, аднак сродкі працягваюць паступаць ад арганізацый і асобных людзей.

### ГАЛОЎНЫЯ ЗАДАЧЫ НА 1988 ГОД

Старшыня Савецкага фонду культуры акадэмік Ліхачоў вызначыў іх так: працяг выканання галоўных праграм; канкрэтнае ўключэнне фонду культуры ў новы этап перабудовы за кошт акцэнтавання намаганняў на практычныя справы і дасягненні адчувальных канчатковых вынікаў; унясенне рэальнага ўкладу ў працэс дэмакратызацыі, апэратыўнае рэагаванне на грамадскія ініцыятывы. Народжаны ва ўмовах перабудовы Беларускі фонд культуры будзе дапамагаць ажыццяўленню гэтых праграм усімі сіламі.

### ЗАМЕСТ ЗАКЛЮЧЭННЯ

Нядаўна госцем нашай рэспублікі была грамадзянка ЗША (нарадзілася ў Адэсе) Ганна Чарнэй. Яна жыве ў горадзе Севастопаль, штат Каліфорнія. Азнаёміўшыся з задумамі фонду культуры, яна пераявіла на рахунак № 70000002 (Банк для замежнага гандлю) 1 тысячу амерыканскіх долараў. Чакаецца прыезд з-за мяжы і іншых нашых землякоў, у тым ліку і мастакоў, якія маюць свае мастацкія галерэі. Як бачыце, гэта толькі пачатак практычнага супрацоўніцтва замежных грамадзян у Беларускім фондзе культуры. Але работнікі фонду разлічваюць, што знойдзецца яшчэ нямала людзей за мяжой, якія будуць па-сапраўднаму памагаць нам у ажыццяўленні нацыянальнай праграмы «Спадчына», а таксама ў пошуках каштоўнасцей беларускай культуры і ў вяртанні іх на Радзіму.

**Таццяна АНТОНАВА.**

# ТУТ ЛЮБЯЦЬ ТЭАТР

**Самых розных па ўзросту і роду заняткаў людзей аб'ядноўвае Краснапольскі аматарскі тэатр. Гэты самадзейны калектыў нарадзіўся ў канцы 50-х гадоў, а ўжо ў 1962-м яму было прысвоена званне народнага. Сёння энтузіястам сцэны пад сілу ўжо і складаныя творы. Летась яны паставілі спектаклі па п'есах М. Горькага «Васа Жалязнова», А. Макаёнка «Таблетку пад язык» і А. Дударава «Вечар». Асабліва цёпла прымаюць гледачы пастаноўку «Краснаполле, маё Краснаполле», створаную па матывах твораў беларускіх пісьменнікаў — ураджэнцаў гэтых мясцін — Аляксея Пысіна, Паўла Кавалёва і іншых.**

**Штогод краснапольскія артысты-аматары даюць да 40 спектакляў.**





**НА ЗДЫМКАХ: папулярная ў раёне і маладзёжная студыя тэатра. Яе ўдзельніцы — школьніцы Люба ЛЕСЮКОВА і Наталля НЯТЫЛЬКА ў спектаклі «Снатворны мак»; сцэна са спектакля «Краснаполле, маё Краснаполле».**

**Фота С. ЖАЛУДОВІЧА.**

## *АРХЕАЛАГІЧНЫЯ РАСКОПКІ*

# У СЛУЦКУ НА ВЯЛІКАЙ ГОРЦЫ

Археолагі Інстытута гісторыі АН БССР правялі раскопкі на Вялікай горцы ў Слуцку, дзе сёння гарадскі Дом культуры, адкрылі новыя старонкі летапісу старажытнага горада.

У першых стагоддзях нашай эры на ўзгорку, які ўзвышаўся над балоцістай поймай Случы і Бычка, узнікла ўмацаванае паселішча старажытных балтаў. З матэрыялаў той далёкай пары знойдзены чарапкі грубалепнай керамікі, праслиа і жалезная сякера. А на рубяжы XI—XII стагоддзяў на месцы балцкага пасялення ўсходнеславянскім племенем дрыгавічоў быў заснаваны горад, названы ад ракі Случы — Случаскам. У пачатку XII стагоддзя ён стаў цэнтрам удзельнага княства.

Як выглядаў Слуцк XII—XIII стагоддзяў? Перш за ўсё, ён меў добрыя для таго часу ўмацаванні. Раскопкамі выяўлена, што горад акружалі магутны земляны вал шырынёй да 22 метраў і роў глыбінёй 1,5—2 метры, які запаўняўся вадой. Па грэбені вала праходзіў частакол з бярвенняў. А ўнутры размяшчаўся дзяцінец Слуцка, дзе жыў князь са сваёй дружынай — «княжацкімі дзецьмі». Адсюль і назва — «дзяцінец».

Па тэрыторыі дзяцінца праходзілі вуліцы. Раскопкамі выяўлены тры з іх. Яны масціліся дошкамі ці бярвеннямі і дасягалі шырыні двух метраў. Уздоўж маставых размяшчаліся сядзібы гараджан. Жыллё было плошчай 16—20 квадратных метраў, гаспадарчыя пабудовы, хлявы і клеці — меншыя. На месцы некаторых пабудоў захаваліся рэшткі глінабітных печаў.

Горад быў цэнтрам рамёстваў. Пацвярджэнне таму — рэшткі кузні. Археолагі сабралі мноства жалезных вырабаў і загатовак, багаты інструментарый: кавадлу, зубіла, долата, напільнікі, прабойнікі, малаткі. А знаходка каменнай формачкі для ліцця зярнёных пацерак сведчыць, што жыхарам Слуцка была вядома і ювелірная справа.

Гандлявалі гараджане перш за ўсё з сельскай акругай. Аднак знойдзены прадметы і далёкага паходжання. Гэта шкляныя бранзалеты і пацеркі, шыферныя праслица і крыжыкі, самшытавыя грабяні, упрыгажэнні з бурштыну, медзі, бронзы і серабра. Мяркуючы па іх, Слуцк меў сувязі з Кіевам, Прыбалтыкай, Блізкім Усходам, Каўказам, Візантыяй. Аб развітым гандлі сведчаць дэталі бязмена і шасціфунтовая гіра.

Умелі гараджане пастаяць за сябе. Знойдзены бронзавая булава, жалезны кісцень, перакрыжжа мяча і абоймы ножнаў шаблі, сякеры, наканечнікі кап'я, рагаціны дроцікаў, стрэл. Знойдзены нават рыштунак конніка і баявога каня: шпоры, страмёны, цуглі.

Слуцк у XII стагоддзі меў развітую духоўную культуру. Тут шырока карысталіся пісьмом завостранымі металічнымі палачкамі-стыламі па навошчаных дошчачках. Мноства прадметаў пазначана літарамі. І зусім унікальныя — шахматныя фігуркі з дрэва — ладдзя і пешка, а таксама выразаныя з косці кароль і слон. Кароль уяўляе сабой адлюстраванне мужчыны ў галаўным уборы на троне. Падобная знаходка — адна з самых рэдкіх у савецкай археалогіі.

Усе знойдзеныя прадметы зоймуць месца ў новай экспазіцыі Слуцкага краязнаўчага музея, рэканструкцыя якога завяршаецца.

**Леанід КАЛЯДЗІНСКІ,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР.**




Адразу некалькі сусветных рэкордаў устанавілі беларускія спартсмены ў апошнія дні.

На чэмпіянаце Еўропы ў стральбе з пнеўматычнай зброі, які праходзіў у Нарвегіі, вызначыўся Ігар Басінскі з Гродна. Праслаўлены пісталетчык стаў сусветным рэкардсменам спачатку ў асабістым заліку — 692,3 ачка, а пасля садзейнічаў і каманднаму сусветнаму дасягненню. Тут зборная СССР набрала 1 756 ачкоў.

У Мінску праходзіла ўсесаюзнае зімовае спаборніцтва па лёгкай атлетыцы. Беларуска Ірына Шумак першынствавала ў спартыўнай хадзьбе на дзесяць кіламетраў. Яе вынік — 45 мінут 26,47 секунды. Гэта вышэй сусветнага рэкорда.

Вялікая група беларускіх спартсменаў на старце сезона прымала ўдзел і ў міжнародных спаборніцтвах.

Так, Кацярына Храмянкова ў складзе зборнай Савецкага Саюза ўдзельнічала ў традыцыйным марафоне «Экідэн» у Японіі. Наша каманда дамаглася перамогі.

На матчы лёгкаатлетаў Іспаніі (гаспадары спаборніцтваў), Італіі і СССР другія месцы занялі: у бегу на 800 метраў — Андрэй Суднік, а ў скачках з шастом — Генадзь Сухараў.

Мы паведамлялі ўжо аб першай сустрэчы адной чацвёртай фіналу розыгрышу Кубка ўладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін паміж гандбалістамі мінскага СКА і нарвежскім клубам «Урад» — 33:20. І ў паўторным матчы беларускія спартсмены былі мацнейшымі. Лік сустрэчы — 28:23.

Дзюдаісткі з 44 краін з'ехаліся ў Маскву на традыцыйны турнір, прысвечаны Міжнароднаму жаночаму дню 8-е сакавіка. У вагавай катэгорыі звыш 72 кілаграмаў поспеху дамаглася мінчанка Вераніка Казлоўская.









**«Танцы! Хіба гэта сур'ёзна! — часта яшчэ можна пачуць ад скептыкаў. — Такое лёгкадумнае захапленне не для паважнага чалавека». Але менавіта танцамі захапляецца зараз нямала людзей. І між іншым, далёка не юных. Яны лічаць сваё захапленне цудоўным сродкам ад гіпадынаміі — хваробы веку.**

**На выкананне хуткага танца, як вядома, затрачваецца столькі ж энергіі, колькі патрэбна альпіністу пры ўзыходжанні на гару. Да таго ж заняткі танцамі памагаюць выпрацаваць прыгожую паходку, захаваць фігуру і... цудоўны настрой.**

**Сведчаннем вялікай папулярнасці бальных танцаў стаў конкурс «Мара-88», які нядаўна адбыўся ў Мінску. Цікава і захапляюча праходзілі спаборніцтвы сярод конкурсных пар. Найлепшы вынік па еўрапейскіх танцах у дуэта з горада Тарту — Мерыке Лехенуу і Яак Лехтсаар, а па лацінаамерыканскіх — у выканаўцаў з Клайпеды Далі Румшэйтэ і Нарвіласа Шылвінаса. Дастойную канкурэнцыю гэтым майстрам склалі юныя мінчане Таццяна Славінская і Сяргей Марцынкевіч.**

**Сваё майстэрства на гэтым свяце маглі прадэманстраваць не толькі танцавальныя дуэты, але і гледачы, якія ў фае Палаца з запалам выконвалі кадрылю, лірычны фігурны вальс, незаслужана забытыя кракавяк і па-дэ-грас, блюз і вальс бастон.**

**Л. ЛАЗАРАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: ідзе прадстаўленне ўдзельнікаў конкурсу; мінчане У. ГОМАН і А. САБАНСКІ; суддзя спаборніцтваў, выкладчык танцаў Палаца культуры МТЗ В. ЕРМАКОВА; пераможцы ў групе «С» А. ЗІНЧУКАЙТЭ і У. РАЛАНДАС з горада Клайпеды.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

## *РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ*

# БЯЖЫЦЬ РЭЧКА-НЕВЯЛІЧКА

У Нёмана шмат добразычлівых сяброў: гэта вялікія і маленькія рэчкі, рачулкі і ручаі. Яны збіраюць воды з ніў, зялёных лугоў, у цяністых лясах і нясуць іх роднаму бацьку Нёману. Гэтым яны памнажаюць яго сілу і магутнасць.

Адной са старанных памагатых з'яўляецца і невялічкая Ініца. Яна збірае воды ля пагоркаў Любна, на нізінах Градак і Віскачоў і, аб'яднаўшы іх у адзін паток, нясе сваю даніну Нёману.

Яшчэ ў даўнія гады спадабалася прыгожая рачулка людзям, і яны пачалі будавацца на яе левым беразе. Паселішча назвалі імем рачулкі — Ініца.

Ва ўсе поры года Ініца прываблівае сваёй непаўторнай, уласцівай толькі ёй прыгажосцю. Яе рэчышча выкручастае, з мноствам лук і лучак. Берагі ўпрыгожаны алешынамі, вербалозам, лазою-ракітаю, чаромхаю.

Вясной яна першая ломіць зімовае пакрывала, імчыць крыгі да Нёмана, заклікае і яго хутчэй сустрэць вясну. А ледзь прыгрэе сонца, на яе абсадах, раней чым дзе, заспявае салавейка, закукуе зязюля.

У летнюю спёку на нізюткіх берагах Іініцы ўтульна ад прахалоды, якую даюць густы цень ад дрэў і крынічная вада. У вячэрні час доўга не змаўкае гоман людзей, якія адпачываюць пасля працоўнага дня.

Восенню перамыты пясок зіхаціць на дне рэчышча ад скупых промняў сонца, бо ў рачулцы няма водарасцей.

Зімою, нават у лютыя маразы, месцамі Іініца не замярзае: прычына — нябачныя крынічкі, што струменяць з Бярштанскага бору. Улюбёны ў свае родныя мясціны Уладзіслаў Паўлюкоўскі свае сатырычныя творы падпісваў Улад Іііцкі. Працавітая, шустрая Іініца дапамажа людзям летам паліць агароды, накарміць і напаіць гусей і качак, а потым спяшаецца да Нёмана, перабягае дарогу Стоўбцы — Беражна, пасылае журлівае прывітанне стройным соснам на Воўчыцы і праз прынёманскую лугавіну аддае свой скарб, свае чыстыя воды бацьку Нёману.

Яўген **КРАМКО.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**
МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Зак. № 461.